Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 900.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. [illegible]ўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 20 лістапада 1998 г. | № 125 (517) | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Харчаванне будзе, але дарагое

*На думку прэзідэнта А.Лукашэнкі, у Беларусі «надыходзіць перыяд стабілізацыі»*

Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў 18 лістапада падчас наведвання Мінскага завода халадзільнікаў. Пры гэтым прэзідэнт адзначыў: *«Стабілізацыя, на жаль, адбудзецца на дастаткова высокім цэнавым узроўні. Але, па вялікаму рахунку, галоўнае ж — не цана. Галоўнае — каб яна хоць неяк была стабільнай. Каб даходы людзей, заработная плата была збалансаваная з гэтай цаной. Гэта можна зрабіць толькі тады, калі стабілізуецца рынак. Я спадзяюся — што да студзеня месяца, хаця меркаваў, што ў кастрычніку мы выйдзем на стабілізацыю. У наступным месяцы мы падцягнем даходы людзей да ўзроўню існуючых цэнаў. Але зараз перыяд цяжкі, я разумею гэта».*

А.Лукашэнка заявіў, што ён разумее, наколькі «мізэрным» было апошняе павышэнне мінімальнай зарплаты, і паабяцаў бліжэйшымі днямі абмеркаваць гэтую праблему з членамі рэспубліканскага штаба, створанага пры прэзідэнце.

*БелаПАН*

### На «чорным» рынку – рэкорд

**Курс долара на «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску дасягнуў рэкорднага паказчыка — 195.000 рублёў пры пакупцы і 200.000 рублёў пры продажы**

На 19 лістапада Нацыянальны банк Беларусі ўсталяваў наступныя афіцыйныя курсы валют: долар ЗША — 71.000 беларускіх рублёў, нямецкая марка — 42.456,50, расійскі рубель — 4.200, украінская грыўна — 20.717,83. У параўнанні з папярэднім днём, афіцыйны курс долара ўзрос на 1.500 рублёў. Адначасова на «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску 19 лістапада курс долара павялічыўся ў сярэднім на 5.000 рублёў. Амерыканскую валюту куплялі па 195.000 і прадавалі па 200.000 рублёў, што з'яўляецца рэкордным паказчыкам за ўсю гісторыю «чорнага» рынку.

*БелаПАН*

### Будзьце асцярожнымі з валютай!

**З пачатку года ў грамадзянаў, якія спрабавалі прадаць свае долары па рэальным рыначным курсе, і ў так званых валютчыкаў канфіскавана грошай амаль на 20 мільярдаў рублёў**

Такія лічбы абвесціў Дзяржаўны падатковы камітэт. Як паведамілі ў прэс-цэнтры ДПК, за 10 месяцаў інспекцыямі гэтай установы было выяўлена 1.858 выпадкаў парушэння парадку ажыццяўлення валютных аперацыяў. Па фактах парушэнняў да адміністратыўнай адказнасці прыцягнута 1.356 грамадзянаў, якія былі аштрафаваны на агульную суму 17,4 млрд. рублёў. Апрача таго, 316 грамадзянаў падвергнута адміністратыўнаму арышту. У парушальнікаў канфіскавана больш за 260 тысяч доляраў ЗША, 17,5 тысячы нямецкіх марак і іншай валюты — уся сума эквівалентная 19,6 млрд. рублёў.

*БелаПАН*

### Памёр з голаду

**У Магілёве памёр чалавек ад недаядання. Урачы паставілі дакладны дыягназ — «истощение».**

Яго ўбачылі жыльцы шматпавярховага дома. Чалавек нерухома сядзеў перад пад'ездам. Ён быў моцна схуднелы і не мог самастойна сысці з месца. Памёр ужо ў машыне «хуткай дапамогі». Зараз высвятляецца асоба нябожчыка.

**Іван ЗАСАДА**

### Курсы скончыліся трагічна

**У ноч з 17 на 18 лістапада ў пасёлку Лясны Мінскага раёна ўпалі з балкона 5-га паверха двое ўрачоў. Расследаваннем займаецца пракуратура.**

Двое 25-гадовых лекараў з Віцебска знаходзіліся на курсах павышэння кваліфікацыі. Пры невядомых абставінах яны ўпалі з балкона інтэрната. Абодва ўрачы загінулі. Адзін з іх працаваў у тубдыспансеры, а другі — у абласной неўралагічнай бальніцы Віцебска.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**




### Дэмакраты памятаюць пра «рэферэндум»

**У наступны аўторак у Мінску адбудзецца шэсце, прысвечанае гадавіне сумнавядомага рэферэндуму.**

Мінскі гарвыканкам выдаў дазвол старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Міколу Статкевічу на правядзенне 24 лістапада мерапрыемстваў у сувязі з гадавінай рэферэндуму 1996 года. Плануецца, што дэманстрацыя пачнецца ў 17.00 ад плошчы Якуба Коласа і завершыцца мітынгам каля Опернага тэатра. Ініцыятыву сацыял-дэмакратаў падтрымалі дэмакратычныя партыі, яны накіравалі сваіх прадстаўнікоў у склад арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы да акцыі.

*БелаПАН*

## На вайне, як на вайне

*Рэспубліканскі штаб на чале з Мясніковічам пачаў атаку на так званы спажывецкі кошык*

16 лістапада штаб Мясніковіча прыняў рашэнне № 3: «Аб абменным курсе беларускага рубля, рэгуляванні цэнаў на асобныя тавары і куплі-продажы замежнай валюты».

Што тычыцца абменнага курсу, то тут усё зразумела: валютнае рэгуляванне па-беларуску гарантуе інтарэсы валютных спекулянтаў і губіць вытворцаў. Таму рашэнне прадугледжвае меры па частковай лібералізацыі валютных аперацыяў. Поўны пераход на рыначныя адносіны ў гэтай сферы азначаў бы прызнанне поўнага банкруцтва валютна-фінансавай палітыкі. У кожнага б узнікла законнае пытанне: навошта было гэты гарод гарадзіць.

А ў адносінах да цэнаў ужыта прынцыповая навінка. Калі да гэтага часу рэгуляванне азначала безумоўнае паэтапнае павышэнне ўсіх цэнаў, то цяпер плануецца выключыць са спісу тавараў і паслуг, па якіх вызначаецца індэкс спажывецкіх цэнаў, групу тавараў і паслуг (спіс, відаць, складаецца), якія, на думку штабістаў, не з'яўляюцца неабходнымі ў спажывецкіх расходах насельніцтва.

Такім чынам, зноў без мяне мяне жанілі. Мясніковіч са сваім штабам будуць вызначаць, што нам неабходна, а што не? Канешне, будуць. Прынамсі, тарыфы на газ і электраэнергію, цэны на гарэлку, масла, цукар, яйкі, мяса птушкі і іншыя тавары будуць «упарадкоўваць». Інакш кажучы, павышаць да таго ўзроўню, пасля якога шэрагоўы пакупнік не зможа рабіць такія-сякія запасы, а дробны спекулянт — «массированно вывозить их за пределы Республики Беларусь».

Зразумела, тут маецца на ўвазе Расія. Цяпер паспрабуйце падлічыць, колькі кожны з нас заплаціць за тое, што з гэтай братняй краінай у нас няма нармальнай мяжы, за тое, што Лукашэнка з Чарнамырдзіным некалі ў экстазе братняй любові вырвалі пагранічны слуп. Але і тут нашы штабісты не абыходзяцца без хлусні. Бо, па дадзеных мінстата, у кастрычніку цэны ў Мінску па гэтых «стратэгічных» таварах зраўняліся з маскоўскімі ці нават пераўзышлі іх. Напрыклад, ялавічына ў Мінску каштуе столькі ж, як і ў Маскве, вараная каўбаса і масла — трохі меней. Затое яйкі і цукар — больш, а алей, мука і крупы каштуюць у Мінску даражэй у 2—2,5 разы. Што будзе, калі іх яшчэ падвысяць?

Карацей кажучы, на вайне, як на вайне. Калі ўжо ёсць штаб, то ён і ваюе. Супраць нас з вамі.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Замест прадуктаў – прапаганда

**Да барацьбы з харчовым крызісам у Беларусі далучылася нядаўна створаная ідэалагічная вертыкаль. Дзяржаўныя ідэолагі-прапагандысты павінны даходліва тлумачыць людзям, куды зніклі яйкі, цукар і іншыя прадукты і хто ў гэтым вінаваты.**

У сераду ў Мінскім гарвыканкаме адбылася нарада ідэалагічнага актыву, на якой намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч тлумачыў новым палітрукам асабліваці працы з *насельніцтвам у крызісны перыяд*. Аналагічныя нарады прайшлі таксама ва ўсіх абласных і многіх раённых цэнтрах краіны. Прапагандыстаў інструктавалі, як трэба адказваць на нязручныя пытанні людзей, якія вымушаныя гадзінамі стаяць у чэргах, каб набыць самыя неабходныя прадукты.

Спіс дзяжурных адказаў не вельмі вялікі, але, на думку аўтараў ідэалагічнай канцэпцыі, дастатковы, каб абгрунтаваць адсутнасць прадуктаў аб'ектыўнымі прычынамі. На пытанне «Хто вінаваты?» ёсць *некалькі варыянтаў адказаў:* расійскі эканамічны крызіс, «чаўнакі», якія вывозяць яйкі і масла за мяжу, несумленныя гандляры і ажыятажныя настроі несвядомай часткі насельніцтва.

Карацей, вінаватыя хто заўгодна, любыя знешнія прычыны — толькі не прэзідэнцкая ўлада і яе кіраўнік. Лукашэнка прызнаваць сябе вінаватым і не збіраецца. У сераду, падчас візіту на Мінскі завод халадзільнікаў, Рыгоравіч абураўся намерам прафсаюзаў правесці акцыі пратэсту. *«Я не заслужыў таго, каб супраць мяне выходзілі людзі на вуліцу і патрабавалі «Далоў Лукашэнку». Я не менш любога рабочага працую і раблю ўсё магчымае дзеля таго, каб сітуацыя была стабільнай»*, — заявіў гарант канстытуцыі. Лукашэнка таксама паабяцаў рабочым, што харчовая праблема будзе вырашаная да 1 студзеня. Так што цяпер спіс адказаў дзяржаўных прапагандыстаў папоўніцца яшчэ адным — «З новага года ўсё ў нас будзе о'кей».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Шаноўныя чытачы!**

**Падпісная кампанія на 1999 год стартавала.**

**Газету НАВІНЫ можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку.**

**Наш падпісны індэкс 63312**

## Сіўчыку далі 15 сутак

**Яшчэ адзін удзельнік мітынгу рабочых, які праходзіў 5 лістапада, адпраўлены за краты. Ім стаў Вячаслаў Сіўчык, сакратар управы БНФ.**

У мінулы аўторак суддзя Трубнікаў сваім рашэннем адправіў Сіўчыка на 15 сутак у ізалятар па вуліцы Акрэсціна, дзе ўжо знаходзіцца назіральнік «Вясны-96» Вадзім Канапацкі. На судзе сведкі-міліцыянты не здолелі даказаць актыўны ўдзел Сіўчыка ў акцыі рабочых, аднак суддзі Трубнікаву хапіла відэастужкі, на якой двойчы прамільгнуў твар Сіўчыка.

Працэсы па справах дэпутата Валерыя Шчукіна і рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча зноў адкладзеныя. Кожны раз абвінавачаныя з'яўляюцца ў суд цёпла апранутымі. *«Сесці на нары я не баюся, вось толькі зараз у турме надзвычай холадна, таму і рыхтуюся»,* — кажа Івашкевіч.

Дарэчы, арганізатары акцыі рабочых атрымалі з адміністрацыі адказ на петыцыю да прэзідэнта, за якую прагаласавалі прыкладна 5 тысяч удзельнікаў мітынгу. У гэтай паперы сцвярджаецца, што патрабаванні рабочых перададзеныя ў міністэрства эканомікі ды іншыя ведамствы ўрада. Такім чынам, цяпер у Саўміне рыхтуецца адказ на прэтэнзіі рабочых да прэзідэнта.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Ні скваркі, ні чаркі

**З учарашняга дня гарэлка падаражэла на 75 працэнтаў.**

Тым не менш, учора аматары моцных напояў працягвалі штурмаваць крамы — новыя цэны іх не засмучалі. Цяпер паўлітровая пляшка «Двух буслоў» каштуе 168 тысяч 100 рублёў, «Белая Русь» — 185.300, «Крышталь-Люкс» —185.700, «Руская» — 164.400.

Кошт «элітных» гарэлак таксама змяніўся. Фірмовая бутэлька 0,7 літра «Мінскай» ужо каштуе крыху больш за 2 мільёны. Таннейшыя «Усяслаў Чарадзей» — 1.724.100 і «Залатая Карона» — 965.100 рублёў.

Адначасова падвысіўся і залогавы кошт шклянай тары. Бутэлькі і слоікі падаражэлі ў паўтара-два разы.

Гэта ўжо трэцяя змена цэннікаў на моцныя напоі за апошнія паўтара месяца: раней гарэлка даражэла 8 кастрычніка (на 10%) і 5 лістапада (яшчэ на 15%).

Тыя, хто напярэдадні даведаўся пра падвышэнне цэнаў, кінуліся ў крамы і, адстаяўшы чаргу, бралі адразу па чатыры-пяць бутэлек гарэлкі. Больш за ўсіх стараліся пенсіянеры.

Як вядома, алкагольная прадукцыя прыносіць найвышэйшыя прыбыткі. Дзяржавы, якія маюць манаполію на вытворчасць гарэлкі, някепска папаўняюць свой бюджэт за кошт гэтага. Калі беларуская дзяржава восьтак адразу падвышае кошты на гарэлку, гэта можа тлумачыцца дзвюма прычынамі: дзяржава дбае пра сваіх грамадзянаў і не хоча, каб яны співаліся (дарэчы, у большасці дзяржаваў свету менавіта з гэтых прычынаў цэны на гарэлку надзвычай высокія), або бюджэт апустошаны і трэба яго вельмі хутка напоўніць. Вельмі хацелася б, каб сапраўдным быў менавіта першы варыянт, але...

Гарэлачныя аддзелы ў крамах перапоўненыя нізкаякаснымі «моцнымі напоямі» і «вінамі» па 35—75 тысяч рублёў за пляшку. Так што беларусы піць менш не стануць — знізіцца толькі якасць ужываемых напояў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Народ співаецца

**На Брэстчыне афіцыйна зарэгістравана каля 21 тысячы хранічных алкаголікаў.**

Аднак урачы-нарколагі сцвярджаюць, што гэтая лічба ніжэйшая за рэальную і не адлюстроўвае ў поўнай меры той сітуацыі з алкагалізмам, якая складваецца апошнім часам у вобласці. Асабліва засмучае, што сярод алкаголікаў усё больш жанчын і дзяцей. Сёлета, напрыклад, да адказнасці за сістэматычнае распіццё спіртных напояў прыцягваліся больш за 2 тысячы падлеткаў, каля 200 непаўналетніх пастаўлены на медыцынскі ўлік за сістэматычнае ўжыванне алкаголю.

*БелаПАН*

# Савет бяспекі – ў небяспецы

*Пра чыю бяспеку турбуецца дзяржсакратар*

**Віктар Шэйман — чалавек сур'ёзны. Але ён часам робіць вельмі смешныя заявы. Гаворачы пра сітуацыю на спажывецкім рынку і ў прамысловасці, Шэйман выказаўся ў тым сэнсе, што дэфіцыт прадуктаў і нізкая зарплата пагражаюць нацыянальнай бяспецы Беларусі. Ні больш, ні менш.**

Адчуваеце глыбіню стратэгічнага мыслення? Народу няма чаго есці, а гэта значыць — краіна ў небяспецы. А можа ў небяспецы Савет бяспекі? Можа трэба было не Зімоўскага слухаць, які раз за разам маляваў карціны квітнеючай беларускай эканомікі, а заглядаць у іншыя выданні, дзе даваўся больш аб'ектыўны аналіз? Да таго ж небяспечная сітуацыя ў прамысловасці склалася не сама па сабе і не адразу. Яе стварылі палітыкі шляхам памылковых і разбуральных для эканомікі рашэнняў.

Менавіта гэтыя рашэнні і пагражаюць нацыянальнай бяспецы. Узяць, напрыклад, харчовае пытанне. Яно ж узнікла не ад таго, што на Беларусь гадамі запар налятаюць цунамі ці адбываюцца землятрусы. Бог у гэтым сэнсе шануе Беларусь: калі абожжа не ўродзіць, то бульба з буракамі — абавязкова. Тут трэба вельмі пастарацца, каб Беларусь давесці да голаду. Тым больш, што і зямлі ў нас хапае, і людзі не лайдакі. Дык чаму ж вынік слабы?

Можа таму, што сялянства ў нас «непатрыятычнае»? Зрэшты, вяскоўцам, у адрозненне ад таварыша Шэймана, няма калі ламаць галаву над праблемай нацыянальнай бяспекі. Іншыя думкі лезуць у галаву: дзе ўзяць каня, дзе саломы ўкрасці, дзе жэрдак насекчы, бо плот валіцца. Ды мала яшчэ што патрэбна ў гаспадарцы. А дзе ўзяць, калі не ў калгасе... Улады ж адабралі ў селяніна ўсё, што можна, пакінуўшы толькі «соткі», каб не памёр з голаду. А ў краму схадзіць — грошай няма. Бо з тых 1,3 трыльёна рублёў заразызачанасці па заработнай плаце, пра якія казаў Шэйман, каля 4/5 прыходзіцца менавіта на долю калгасаў ды саўгасаў.

Пры гэтым калгаснікі не атрымалі амаль 300 мільярдаў рублёў за прадукцыю і работы, выкананыя яшчэ ўлетку. Прыкладна такое ж становішча і рабочых саўгасаў. А ўсе добра ведаюць, што не аддаць доўг своечасова — значыць украсці.

Вось і атрымоўваецца, што дзяржава гандлюе крадзеным. І тады, калі аказвае харчовую дапамогу расійскім маханам, якія ляноцца пасадзіць сабе бульбу з капустай, і тады, калі падпісвае дамовы аб пастаўках беларускіх кілбас расійскім рэгіёнам, і тады, калі нізкімі цэнамі на «социально значимые продукты» забяспечвае сабе палітычны аўтарытэт у вачах гарадскога насельніцтва.

А ў апошні час на дзяльбу чужога кабанчыка наваліліся ўжо ўсім скопам. Зрабілі нейкі там штаб, ледзь не пад аўтаматамі робяць канфіскацыі. Чаго чакаць далей? Думаю, што будзе яшчэ горш, бо калі дзяржава занялася адкрытай канфіскацыяй зробленага сялянамі прадукту, ніхто вясной у поле не пойдзе. А пад аўтаматамі — які прыбытак з такой працы.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Лідскае піва для маскоўскага «Спартака»

**Лідскае піва традыцыйна — самае дарагое ў Беларусі. Аднак сёння, як лічаць на прадпрыемстве, рэальна яго трэба прадаваць яшчэ даражэй — па 45-60 тысяч рублёў за бутэльку.**

*«Гэта — для добрай рэнтабельнасці, каб не проста акупляць піва, але каб мець сродкі для развіцця вытворчасці. Бо пакуль мы ўсё адно адстаем ад еўрапейскіх заводаў на 15-20 гадоў»,* — патлумачыў галоўны інжынер Лідскага піўзавода Ігар Бацян.



Рэпутацыя лідскага піва пакуль застаецца высокай. Нядаўна ў Маскве на расійскай нацыянальнай цырымоніі «Лепшае піва 1998 года» піва «Спартак» — чэмпіон», зробленае ў Лідзе, стала пераможцам у намінацыі за лепшы дызайн. Прэзідэнт Асацыяцыі вытворцаў, пастаўшчыкоў і спажыўцоў піва Павел Дзейка прызначыў лідчукам за гэта спецыяльныя ўзнагароды — ордэн «Бурштыннага Крыжа» і крышталёвую бочачку.

Піва па замове расійскага спартыўнага таварыства «Спартак» было выпушчанае ў верасні, а праз месяц аднайменная футбольная каманда стала расійскім чэмпіёнам. Гатунак — светлы, пастэрызаваны, з двухмесячным тэрмінам захоўвання адразу стаў папулярным сярод заўзятараў гэтай каманды. Аднак лідчукам хутка давялося ўтрая скараціць пастаўкі ў Расію — з-за эканамічнага і фінансавага крызісу ў гэтай краіне.

«Спартакаўцы» спынілі свой выбар на беларускім заводзе пасля таго, як летась на прэстыжнай піўной выставе ў Маскве ўсе шэсць гатункаў, прысланых з Ліды, атрымалі залатыя медалі. Такой жа пасляховай стала для лідчукоў і выстава ў Сочы. Цікава, што цяпер падобная прапанова паступіла і ад піцерскага футбольнага клуба, якому захацелася мець піва «Зенит» — чемпион». У лідчукоў, маўляў, на чэмпіёнства «лёгкая рука».

Лідскі завод мае свае склады ў Віцебску і Гомелі. Адтуль піва завозіцца ў Пскоў, Санкт-Пецярбург, Маскву, Смаленск і Бранск. Напрыклад, у Смаленску лідскае піва прадаецца практычна ва ўсіх крамах, чаго няма нават у Гродне. Але, зважаючы на змену валютнага курсу, піва ў Расіі даводзіцца прадаваць удвая танней, чым гэта было да нядаўняга часу. Таму няма валюты, каб купіць якасны дацкі солад, на якім выраблялася, дарэчы, «спартакаўскае» піва. Даводзіцца задавальняцца горшым і даражэйшым — беларускай вытворчасці. Канчаюцца таксама запасы нямецкага хмелю. Сёння збольшага выкарыстоўваецца чувашскі — з Расіі. Усё гэта робіць якасць напою на парадак горшым, як прызнаюцца на заводзе.

Аднак заставацца канкурэнтаздольнымі лідчукам дапамагае і новая тэхналогія, асвоеная летась з дапамогай адной аўстрыйскай фірмы. Выпусціўшы напачатку партыю з аўстрыйскай маркай, цяпер яны вараць у новым цэху свае гатункі. Дарэчы, аўстрыйцы змантавалі там трубаправоды з нержавейнага металу, якіх няма на іншых піўзаводах Беларусі. Цяпер такое «новаўвядзенне» хочуць зрабіць на сталічнай «Алівары», якой кіруе член палаты прадстаўнікоў Т.Дудко.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Апазіцыя хоча ў прамы эфір

**Беларуская апазіцыя не пакідае надзеі атрымаць доступ на дзяржаўнае тэлебачанне і радыё.**

Нядаўна члены аргкамітэта Кангрэса дэмакратычных сілаў звярнуліся да старшыні БТ Рыгора Кісяля з прапановаю даць ім штодзённы прамы эфір.

Аўтары накіраванага на імя Кісяля ліста лічаць, што ягонае ведамства *«распаўсюджвае неадэкватную інфармацыю аб поглядах дэмакратычных сілаў і ўводзіць у зман насельніцтва Беларусі»*. У звароце адзначаецца, што такія паводзіны БТ *«парушаюць правы грамадзянаў на атрыманне праўдзівай інфармацыі»*. Аргкамітэт кангрэса прапанаваў Кісялю да 50-гадовага юбілею Дэкларацыі правоў чалавека, які будзе адзначацца 10 снежня, заснаваць на БТ і радыё штодзённую праграму «Гадзіна дэмакратыі» — каб апазіцыя мела магчымасць данесці свае погляды да народа.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Ад фірмы Кудзінава засталася толькі назва

**Жонка дэпутата Уладзіміра Кудзінава, які ўжо другі год знаходзіцца ў турме, атрымала днямі цікавы дакумент з Івацэвіцкай пракуратуры.**

У ім змяшчаецца адмова ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце раскрадання маёмасці фірмы «Івацэвічы», якая належала да арышту яе мужу Уладзіміру. *«Абсталяванне каўбаснага цэха ўжо раскрадзенае, знікла шмат розных прыстасаванняў, якія выкарыстоўваліся ў гаспадарцы»,* — сцвярджала Зоя Кудзінава і прасіла пракуратуру раёна спыніць рабаўніцтва і пакараць вінаватых. Некалькі месяцаў пракуратура разбіралася, і вось нарэшце прыйшоў адказ, з якога вынікае, што справу ўзбудзіць немагчыма, бо *«няма складу злачынства»*.

Тым часам некаторая маёмасць фірмы «Івацэвічы», якая была канфіскаваная, распрадаецца па вельмі нізкіх коштах. Нядаўна ўсяго за 445 мільёнаў рублёў быў прададзены піцпакаёвы офіс фірмы ў Івацэвічах. Ён дастаўся аддзелу сацыяльнай аховы насельніцтва, якім кіруе жонка старшыні райвыканкама Марыя Жышка. Другі аб'ект — новы вясковы дом, дзе раней месціліся магазін і рэдакцыя газеты, якую выпускаў былы дэпутат, — усяго за 100 мільёнаў набыло бюро тэхнічнай інвентарызацыі раёна.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Маёр «пагарэў»

На тры гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму асуджаны былы старшы оперупаўнаважаны Хоцімскага РАУС Магілёўскай вобласці маёр Вайтэнка. Ён «пагарэў» на 635 доларах, якія атрымаў у якасці хабару.

**Іван ЗАСАДА**

## У Гомелі холадна

**З надыходам халадоў тэмпература ў кватэрах многіх жыхароў Гомеля не паднімалася вышэй за 12-14 градусаў. Абураныя гараджане літаральна закідалі скаргамі гарвыканкам.**

Гэта вымусіла мэра горада Аляксандра Якабсона правесці спецыяльнае паседжанне гарвыканкама. Адказныя за гарадское цяпло камунальнікі патлумачылі, што пайшлі на значнае зніжэнне тэмпературы вады ў сетцы ў адпаведнасці з тэлефанаграмай міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Аднак мэр запатрабаваў, каб адпаведныя службы паднялі тэмпературу ў кватэрах гамяльчан да нормы — 18 градусаў цяпла. І ў сувязі з гэтым заклікаў камунальнікаў *«шукаць кампрамісы, а не сядзець, як мышы пад венікам, і не чакаць, пакуль народ нас прымусіць»*.

Цяпер гомельскі «народ» чакае, калі ў кватэрах будзе цёпла.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# На мяжы з Літвой і Польшчай

**Еўрапейскі саюз выдзеліў 1 мільён ЭКЮ на ахову прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман» і развіццё памежнага супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі Беларусі, Літвы і Польшчы. За 22 месяцы гэтыя грошы павінен выкарыстаць спецыяльна створаны брытанска-нямецкі кансорцыум, эксперты якога прыехалі на гэтым тыдні ў Гродна.**

Замежнікі будуць вывучаць на Гродзеншчыне ўсе прыродныя, а таксама гістарычныя і культурныя мясціны. Каб даць мясцовым уладам парады, як надалей лепей выкарыстоўваць Белавежскую пушчу або Аўгустоўскі канал, як умацоўваць памежнае беларуска-польска-літоўскае супрацоўніцтва і экалагічны турызм.

Тое, што праца ў новым еўрарэгіёне пачынаецца з экалагічнай праграмы, лагічна з дзвюх прычынаў. Па-першае, Нёман упадае ў Балтыйскае мора, і ад стану аховы навакольнага асяроддзя на Гродзеншчыне залежаць не толькі суседнія краіны. А па-другое, як пакуль выглядае, рэалізаваць супольна з палякамі і літоўцамі значныя эканамічныя праекты наўрад ці магчыма. Ва ўсякім разе, пры цяперашняй уладзе.

Прычыны розныя. Ёсць нават глабальныя. Крыху гісторыі. Да канца XVII ст. мяжа еўрапейскай эканамічнай сістэмы знаходзілася на ўсходзе Рэчы Паспалітай. Сённяшняя Беларусь жыла адзіным жыццём з Еўропай. Як піша вядомы французскі гісторык Фернан Брадэль, рускія землі існавалі адасоблена — гэтак жа, як турэцкія ўладанні на Балканах. Еўропа ўздзейнічала на гэтыя дзве імперыі *«перавагай сваёй грашовай сістэмы, прывабнасцю сваёй тэхнікі і тавараў, сваёй моцай»*. Сёння сітуацыя падобная, толькі вось Беларусь засталася цяпер па другі бок мяжы, за «лініяй Керзона».

Нядаўна ў Гродне збіраліся беларускія і польскія вучоныя-эканамісты, каб абмеркаваць магчымасці развіцця рэгіянальнай эканомікі. Адзін беластоцкі прафесар зрабіў нечаканыя для прысутных высновы. Паміж Польшчай і Беларуссю праходзіць «лацінска-візантыйская» мяжа. Па сутнасці, гэта мяжа паміж рознымі цывілізацыямі — каталіцкай і праваслаўнай. І гэта шмат што вызначае. У заходнім грамадстве відавочныя індывідуалізм, рацыяналізм, імкненне атрымаць прыбытак, лібералізм у палітыцы, нарэшце, там цэняцца каштоўнасць правоў і свабодаў асобы. У нас жа, наадварот, свядомасць у людзей — калектывісцкая, сацыялістычная. У постсавецкіх краінах дэмакратыя паўсюдна хутчэй фармальная, апазіцыя — кволая, няма моцнай шматпартыйнай сістэмы, у якой грамадства і не выяўляе патрэбы. Прычым праваслаўе, на яго думку, выступае не як канфесія (вялікі працэнт тых, хто называе сябе праваслаўнымі, гавораць, што ў Бога не вераць), а як тып культуры, побыту. У Расіі, напрыклад, існавала шырока распаўсюджаная кніга «Дамастрой», у якой прадпісвалася, як маліцца і хрысціцца, а таксама як, напрыклад, праваслаўным належыць квасіць капусту...

Так ці інакш, але нельга не пагадзіцца, што паміж Беларуссю і Польшчай праходзіць мяжа двух тыпаў эканомік — каманднай і рынкавай. Састыкаваць іх, напэўна, немагчыма. Як вядома, нават самім палякам няпроста прыстасавацца да вымаганняў, якія прад'яўляе ім Еўрапейскі саюз. Тым не менш, супрацоўніцтва ў рамках еўрарэгіёна будзе наладжвацца. У Гродне ў бліжэйшым часе будзе заснаваны офіс, на які выдзяляецца каля 200 тысяч ЭКЮ. З ініцыятывы літоўскага боку вывучаюцца шляхі супрацоўніцтва паміж нашай вобласцю і Віленскай акругай. Разглядаецца таксама магчымасць, каб адчыніць літоўскае консульства ў Гродне, а беларускае — у Друскеніках. Дзеля палягчэння пераезду мяжы Еўрасаюз прафінансуе будаўніцтва КПП «Каменны Лог» у Ашмянскім раёне. З літоўскага боку — у Медніках гэта ўжо зроблена.

Між іншым, апошнім часам мацней пачала ахоўвацца і ўсходняя мяжа Польшчы. Пабудаваны новыя заставы, закуплена пяць самалётаў для кантралявання яе з паветра. Апроч гэтага дапамагаюць ахоўваць мяжу адна тысяча салдатаў Войска Польскага. У выніку гэтых захадаў немцы сёлета вярнулі палякам на адну трэць нелегальных эмігрантаў менш, чымсьці летась. А значыцца, нелегалам усё цяжэй пакінуць Беларусь, куды яны свабодна прыязджаюць з Расіі. І апошняе. Варта ўлічыць, што палякі выключылі Беларусь з Расіяй з прыярытэтных у сваёй эканамічнай палітыцы краінаў, пакінуўшы Літву і Украіну. Прычына ясная — гэтак званы беларуска-расійскі саюз эканамічна і палітычна нестабільны. Так што, у еўрарэгіёне «Нёман» далей экалогіі справа, хутчэй за ўсё, не дойдзе. Дый большасць грошай, выдзеленых Еўрасаюзам, бадай, застануцца ў кішэнях экспертаў кансорцыума, парады якіх каштуюць дорага.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



## Не баімся ні NATO, ні Штатаў

*Штатныя (не блытаць са штатаўскімі) палітрукі кожны дзень тлумачаць гэтым маладым хлопцам, якую добрую і правільную палітыку праводзіць прэзідэнт Лукашэнка.*

*Фота IREX/ProMedia*







## Ці будуць забіраць у войска святароў?

**Гэтае пытанне хвалюе не толькі праваслаўных, але і іншыя канфесіі.**

Два месяцы таму мітрапаліт Філарэт перадаў прэзідэнту Лукашэнку пісьмо з просьбай вызваліць маладых святароў ад службы ў войску. Гэты ліст падпісаў таксама кардынал Казімір Свёнтак.

У нядаўнім інтэрв'ю каталіцкай газеце *Publik-forum* уладыка Філарэт прывёў гэты факт як прыклад адзінства з касцёлам і, у прыватнасці, з «партнёрам кардыналам Свёнткам». Кіраўнікі цэркваў просяць у прэзідэнта зрабіць тое, што яму не падабаецца. Як вядома, наш галоўнакамандуючы лічыць, што «кожны мужык» павінен абавязкова паслужыць у войску, асабліва ва ўмовах набліжэння *NATO* на Усход.

Ці згодзіцца прэзідэнт вызваліць святароў ад службы ў войску — пакуль невядома. Супрацоўнік урадавага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасці Васіль Мерляковіч сказаў нам, што ніякіх распараджэнняў пасля пісьма не паступала. Звычайна будучым святарам давалі адтэрміноўку. Цяпер пытанне абвастрылася, бо стала больш выпускнікоў духоўных семінарыяў абедзвюх канфесіяў і за кожнага патрэбна прасіць. У міністэрстве абароны таксама нічога не ведаюць пра вайсковае будучае святароў. У прэс-службе Савета бяспекі нас запэўнілі, што пісьмо двух кіраўнікоў цэркваў *«не застанецца без адказу»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Тихо вокруг, только не спят Дрозды...

*Отношение к конфликту по поводу посольских резиденций прекрасно иллюстрирует политическую раскладку в белорусском обществе*

Белорусские верхи хотят примириться с Западом, «замять» скандал с посольскими резиденциями, но при этом ставят перед МИДом неразрешимую задачу: требуется найти способ вернуть послов в Минск, не пуская их в Дрозды. Такая информация прошла недавно по независимым газетам. Во многом показательно, как оценивают ситуацию вокруг Дроздов белорусские граждане.

**Каково ваше мнение: конфликт с выселением иностранных послов из резиденции «Дрозды» и ответными санкциями Европейского союза в отношении высших белорусских чиновников вызван:**

| | |
|---|---|
| + Нарушением белорусскими властями международных правовых норм | 12,5 |
| + Нарушением белорусскими властями этических норм | 12,4 |
| - Нарушением европейскими странами и США суверенных прав Беларуси | 18,4 |
| - Аварийным состоянием канализационных сетей | 7,9 |
| - Заговором Евросоюза против Беларуси | 7,0 |
| + Недобросовестностью и коррумпированностью белорусских чиновников | 8,4 |
| Ничего про это не знаю | 11,0 |
| Другое | 2,7 |
| Затрудняюсь ответить | 16,6 |
| Нет ответа | 3,2 |

Данный опрос был проведен социологической лабораторией «Новак», которая, само собой, не несет ответственности за интерпретацию цифрового материала, сия интерпретация целиком на нашей совести. Равно как плюсы и минусы, расставленные нами в таблице.

Суть этой интерпретации сводится к следующему. Мы отвлеклись от деталей и объединили «под одной крышей» тех, кто в качестве причин конфликта в Дроздах указал различные версии официозной пропаганды. Приняли ли они за чистую монету версию о ремонте канализации или же по советской привычке им померещился западный заговор — это, в конце концов, второстепенно. Все версии такого рода помечены нами знаком «минус». А под знак «плюс», соответственно, попали те респонденты, которые считают, что в конфликте так или иначе виновны белорусские власти.

Так вот, если суммировать число опрошенных по каждой из этих категорий, результат получается весьма любопытный и, я бы сказал, символичный. Тех, кто поверил официозным версиям, оказалось ровно столько же, сколько и тех, кто не поверил, — причем совпадают эти цифры вплоть до десятых долей процента. Более того — и та, и другая величины составляют ровненько по трети от общего количества: по 33,3%! В оставшуюся треть входят те, кто ничего не знает о ситуации в Дроздах либо затруднился ответить, — т.е. люди, не сказавшие ничего определенного.

Подобный расклад типичен для белорусского общества по отношению не только к конфликту в Дроздах, но и к правящему режиму в целом. Не с такой уникальной точностью, конечно, как в данном опросе — но общество разделено на три примерно одинаковые по численности группы. Одну из них составляют те, которые поддерживают Лукашенко и доверчиво внимают официозной пропаганде, чего бы она ни касалась — «козней Запада», внутренней оппозиции, интеграции с Россией или грядущих экономических успехов. В другую входят люди, настроенные против Лукашенко, которых «зомбировать» не удается. И, наконец, третья группа — те, которым, фигурально говоря, «по барабану», которые не разобрались в ситуации или она им в принципе безразлична — в общем, люди, по тем или иным причинам не имеющие твердого мнения. В какие-то моменты они могут вяло высказывать поддержку Лукашенко — только потому, что его фамилия постоянно на слуху.

Разумеется, по различным конкретным вопросам это соотношение может изменяться. Но по большому счету оно именно такое. Другое дело, что неприятие Лукашенко, осуждение действий режима, несогласие с политикой властей и т.п. вовсе не означает, что люди готовы к активной деятельности или хотя бы к поддержке оппозиции. Принцип «кто бы ни пришел на смену Лукашенко — хуже не будет» не проходит, не срабатывает. За долгие годы граждан нашей страны приучили быть оптимистами — в анекдотическом смысле этого слова, то бишь когда оптимисты не соглашаются с пессимистами, утверждающими, что хуже уже некуда, — нет, мол, будет еще хуже. Правда, сторонники режима также не готовы к активной поддержке — но здесь режим в более выгодном положении, нежели оппозиция, поскольку ему служит множество чиновников, оплачиваемых за государственный счет.

Однако, как показывают настроения людей, известные по тем же соцопросам, поле для работы у оппозиции имеется весьма обширное. В первую очередь для работы в том направлении, чтобы аккумулировать недовольство, сделать противников режима своими сторонниками. Как видим, размеры этого поля потенциально такие же, как и у властей.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

## Правы чалавека на кінаэкране

**З 30 лістапада па 5 снежня ў Беларусі адбудзецца міжнародны кінафестываль у абарону правоў чалавека.**

Яго праводзяць беларуская кінавідэастудыя «Таццяна», расійская гільдыя кінарэжысёраў і амерыканскі фонд Форда. Фестывалю аказалі падтрымку прадстаўніцтва ААН у Беларусі і пасольства Швецыі.

Беларускія ўлады насцярожана сустрэлі гэтую дабрачынную акцыю ААН. Чыноўнікі спалохаліся, каб яна не выклікала «хваляванняў», таму запатрабавалі ад арганізатараў паведаміць пра змест фільмаў, якія плануецца прывезці ў Беларусь.

Урачыстае адкрыццё міжнароднага кінафестывалю адбудзецца 1 снежня ў сталічным Палацы культуры прафсаюзаў. У першы дзень фестывалю ў зале саюза кінематаграфістаў пакажуць фільм «Аазіс» кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага, аўтара знакамітай кінастужкі «Звычайны прэзідэнт». На адкрыцці ў доме культуры прафсаюзаў будзе дэманстравацца фільм «Дарога на Курапаты» рэжысёра Міхаіла Жданоўскага і сцэнарыста Аляксандра Лукашука. У праграме фестывалю — работы рэжысёраў з Расіі, Швецыі, Грузіі, Індыі, ЗША і іншых краінаў. Акрамя дакументальных, можна будзе пабачыць мастацкія стужкі Рамана Балаяна, Марлена Хуцыева, Кшыштафа Занусі і іншых. Сярод прэм'ераў, якія прывязуць у Мінск, экранізацыя актуальнай для нашай краіны п'есы Бертальда Брэхта «Кар'ера Артура Уі».

Уваход на праваабарончы фестываль — бясплатны.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*КАДРЫ*





*ДАГЕРРОТИП*

**Семен БУКЧИН**

## «Мы - это народ»

Восьмилетний житель Варшавы Ярек К. выпрыгнул из окна своей квартиры. Высота немалая — четвертый этаж. Но судьба была милостива к маленькому Ярославу: он упал на кусты, потом на кучу осенних листьев. Одним словом, ни одного серьезного ушиба. Тем не менее его увезли в больницу, куда вскоре примчались не только родители, но и куча репортеров из крупнейших польских газет. Ну что, казалось бы, за сенсация? Ребята вываливаются и прыгают из окон в разных странах чуть ли не каждый день. По разным причинам. Вот Ярек пошел на самоубийство осознанно. Оставил записку-завещание, в котором распорядился своим имуществом — игрушками и книгами.

Но даже это обстоятельство — такая ли уж важная причина, чтобы событию чуть ли не целую страницу посвятил репортер «Газеты Выборчей»? Статья разбита на главки — «Семья», «В школе», «Двор и соседи». Ну что ж, можно сказать, обычное журналистское расследование, попытка установить социальные причины происшествия.

И здесь мне хочется спросить: обычное — для кого? Во всяком случае, не для нашей журналистики, где о подобных вещах сообщают, как правило, двумя строчками петитом. В прошлом году или в начале этого, точно не припомню, одна из наших государственных газет сообщила, примерно, следующее: в Гомеле двое подростков, взявшись за руки, прыгнули с крыши девятиэтажного дома. «Причины этого поступка неизвестны», — заключение коротенькое сообщение корреспондент. «Так это ведь твое прямое дело — попытаться установить причины!» — хотелось закричать.

А знаете, читатель, почему этот репортер никуда не пошел — ни в семью, ни в школу?.. Потому что это чьи-то, чужие ребята, потому что он с ними, как с соотечественниками, никак не связан. У нас в Беларуси все чужое, все не свое. Наши публицисты так и пишут о каком-то белорусском народе. Можно подумать, что сами они живут в Малайзии. Помню, как пришли мы с коллегой в школу и учительница торжественно объявила: «К нам в гости пришли белорусские писатели». Как будто мы приехали из Африки.

Можно ли вообразить, чтобы варшавская или краковская учительница объявила своим ученикам: «К нам в гости пришли польские писатели!» Это исключено. Потому что там это — «наши писатели». И маленький Ярек, выпрыгнувший из окна, — это «наш Ярек». И мы должны разобраться, почему это произошло с нашим мальчишкой.

Местоимение «мы» — не просто характерный элемент польской журналистики. Это постоянно подаваемый сигнал: «Мы — поляки, мы — народ, все, что происходит с нами, — наша общая забота». Разумеется, у поляков тысячи проблем, на которые они смотрят с тысячи разных позиций. Но есть то, что их объединяет и обозначается не очень удачным, на мой взгляд, словом «польскость».

Нет «белорусскости», и потому мы имеем сегодня то, что имеем.

Весной этого года был зверски замучен шестнадцатилетний варшавский школьник–выпускник Томек Яворский. С друзьями он пошел в пригородный парк после очередного успешного экзамена. Разожгли костер, пели песни, шутили. И вот явились нелюди, избили и разогнали школьников, а Томека похитили и на какой-то квартире, после жутких издевательств, убили.

Сегодня вся Польша знает имя Томека Яворского. Процесс идет полгода. Газеты постоянно публикуют подробные отчеты. Все знают имена убийц, подробности их биографий, их поведения на суде. Вся Польша осведомлена о позиции адвокатов и прокуратуры, знает, кто родители убитого. И все это на протяжении полугодия... Потому что это — «наш Томек».

А ведь есть судебные дела покруче, с участием известных бандитов. Но посмертная судьба Томека Яворского в центре внимания всей Польши. Процесс заканчивается. На днях должен быть вынесен приговор. В Польше нет смертной казни. Прокурор требует для трех убийц пожизненного заключения.

Польша ждет судебного решения и переживает вместе с родителями Томека Яворского. Потому что это — «наш Томек». Потому что «мы, польский народ», — это не только слова из конституции, слова на бумаге.

